ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.00

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
Post address: Bielarus, P. O. Box 178, Jamaica, N. Y. 11431 Tel.: (212) 380-2036

Год XXIX, № 278 New York, June — Чырвень — 1980 Vol. XXIX № 278

## XIV-я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ

**30 жніўня — 1 верасьня 1980 г.**
**у Кліўленьдзе, Огаё, ЗША.**

Сустрэча будзе прысьвечаная:

1. **30-годзьдзю беларускай калёніі ў Кліўленьдзе;**
2. **450-годзьдзю Статуту Вялікага Княства Літоўскага;**
3. **Абароне людзкіх і нацыянальных правоў у Беларусі;**
4. **30-годзьдзю газэты „Беларус".**

Праект Праграмы:

**СЫБОТА, 30 жніўня:**

7-12 гадзіна ўраньні: рэгістрацыя й разьмяшчэньне гасьцей;
12-6 гадзіна папаўдні: нарады й паседжаньні арганізацыяў, спартовыя змаганьні, выстаўкі (на селішчы Полацак).
2-5 гадзіна папаўдні: Канфэрэнцыя Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, прысьвечаная Літоўскаму Статуту (у Кліўлендзкім Штатавым Унівэрсытэце).
9-я гадзіна ўвечары: Вечарына.

**НЯДЗЕЛЯ, 31 жніўня:**

10-я гадзіна ўраньні: Служба Божая ў Катэдральным Саборы Жыровіцкае Божае Маці БАПЦарквы.
1:30 гадзіна папаўдні: Б А Н К Е Т.
4-я гадзіна папаўдні: К А Н Ц Э Р Т у залі Сярэдняе Школы (праз вуліцу ад селішча Полацак), Выстаўка народнага мастацтва.
9-ая гадзіна ўвечары: Танцавальная Вечарына.

**ПАНЯДЗЕЛАК , 1-га верасьня:**

8-я гадзіна ўраньні: нарады БАЗА, ЗБК ды іншых арганізацыяў.

Усе імпрэзы Сустрэчы, за выняткам Канфэрэнцыі БІНіМ-у, будуць адбывацца на селішчы Полацак.

**Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне й Згуртаваньне Беларусаў Канады ветліва запрашаюць усіх Суродзічаў прыняць удзел у Сустрэчы.**

## ПЕРШАЕ ДЗЕСЯЦІГОДЗЬДЗЕ



29 травеня 1970 году памёр Мікола Абрамчык, Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, адзін із заснавальнікаў і галоўны рухавік Лігі Вызваленьня Народаў СССР (Парыскі Блёк), палітык, зь імём якога зьвязаны цэлы пэрыяд — „эра Абрамчыка" — у паваеннай міжнароднай дзейнасьці палітычнае эміграцыі народаў Савецкага Саюзу. Гэта былі часы ,калі заходнія дзяржаўныя дзеячы лепш разумелі камуністычна-расейскую пагрозу ды больш наважана супрацьдзеялі ёй. Мікола Абрамчык і ягоная „эра" разумелі адзін аднаго й адзін да аднаго падыходзілі. Часы Прэзыдэнта Абрамчыка былі пэрыядам, калі перакананьне й дзеяньне йшлі ў пары, ня супярэчачы адно аднаму, калі можна было йсьці напраслкі, а не ў вабход, як цяпер. Мікола Абрамчык жыў і дзеіў у сваім часе.

Гэта быў таксама час закладаньня падвалінаў, заліваньня фундаманту беларускага палітычнага жыцьця на эміграцыі, каб узьдзейваць зь яго на Бацькаўшчыну. На гэтым фундаманьце трымаецца яно й цяпер. Усюды ў ім — у сэктары палітычным, грамадзкім, рэлігійным, у галіне кадраў — засталася празорлівая й карпатлівая праца Міколы Абрамчыка. Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя нездарма „ўшанавала" яго ў сваім томе першым (1969 год) даведкаю, хоць і зь перакручанымі біяграфічнымі дадзенымі (М. Абрамчык, прыкладам, на Беларусі пад нямецкай акупацыяй не „ўзначальваў ‚Беларускую народную самапомач' ", як прыпісвае яму Бел СЭ, бо на Беларусі нат ня жыў, а толькі двойчы, дый тое нелегальна, наведаў яе). Але ў гэткім „ушанаваньні" навыварат — таксама прызнаньне эфэктыўнасьці ягонага намаганьня й змаганьня, ягонага лідэрства.

Мікола Абрамчык быў ня толькі беларускім палітыкам. Ён быў дзеячам міжнароднага маштабу, дыпляматам з прыроджанымі здольнасьцямі й набытым дазнаньнем. Свае шырокія кантакты ад парыскага Кэ Д'Орсэ й лёнданскага Парлямэнту да Дзяржаўнага Дэпартаманту ў Вашынгтоне ён выкарыстоўваў, каб узмацняць самаабаронныя намаганьні паняволеных Масквой народаў ды адначасна засярэджваць увагу на пытаньні незалежнасьці Беларусі.

Памёр Мікола Абрамчык у часе, калі ягоная „эра" дабягала да свайго канца, калі нутраное й міжнароднае разьвіцьцё падзеяў, асабліва ў трыкутніку Масква-Вашынгтон-Пэкін, прадыктавала новыя спробы падыходу да старога канфлікту паміж Захадам і Ўсходам. „Усход" расшчапіўся, у ім паўстаў „Далёкі Ўсход", Кітай, што абумовіў іншы характар міжнароднага стану. У міжчасе дайшло да Гэльсынскага „расспружаньня", якое Масква пагрозьліва напружыла цяпер у Афганістане.

Зьменлівасьць — асноўная адзнака жыцьця. Зьмяняюцца часы — мяняюцца якасьці й крытэрыі вымярэньня людзей ды іхных учынкаў. Пры ўсім гэтым ,аднак, Мікола Абрамчык быў вялікім чалавекам, вялікім Беларусам.

Гэткім ён і застанецца ў нашай нязьменлівай Памяці.

## ВЫБАРЫ 1980 ГОДУ

### ДЗЕСЯТАЯ КАНФЭРЭНЦЫЯ РЭСПУБЛІКАНСКІХ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ

У горадзе Кліўленьдзе, штат Огаё, ад 16 да 18 травеня сёлета адбывалася Дзесятая Гадавая Канфэрэнцыя Нацыянальных Рэспубліканскіх Арганізацыяў, у склад якое ўваходзяць і беларускія рэспубліканскія клюбы ў штатах: Нью Ёрк, Нью Джэрзі, Огаё, Каліфорнія, Мэрылэнд, Мічыган, Ілінай і Масачусэтс. У склад беларускай дэлегацыі на Канфэрэнцыі ўваходзілі наступныя прадстаўнікі: Тацьцяна Кананчук, Долёрэс Мельяновіч, Кастусь Калоша, Вітаўт Кіпель, Расьціслаў Гарошка й Васіль Мельяновіч.

Праца Дзесятай Гадавой Канфэрэнцыі Рэспубліканскіх Нацыянальных Арганізацыяў праходзіла на форуме пленарных паседжаньняў, на якіх кажная нацыянальная арганізацыя давала справаздачу із свае дзейнасьці ў выбарнай кампаніі сёлетняга году. У беларускай справаздачы казалася, што адныя сябры клюбаў падтрымваюць на прэзыдэнта ЗША Рональда Рэгана, іншыя — Джорджа Буша. Падобна падзяліліся сымпатыі й іншых нацыянальных клюбаў.

Другі дзень Канфэрэнцыі прайшоў на слуханьні й абмяркоўваньні справаздачаў паасобных сэкцыяў агульнаамэрыканскае рэспубліканскае рады нацыянальнасьцяў. На чале адукацыйнай сэкцыі рады стаіць Беларус Вітаўт Кіпель і пад ягоным кіраўніцтвам гэтая сэкцыя апрацавала для друку даведнік для амэрыканскіх палітыкаў пра нацыянальныя групы Амэрыкі.

У часе трохдзённай Канфэрэнцыі адбываліся сустрэчы з рэспубліканскімі кандыдатамі на прэзыдэнта — былым каліфарнійскім губэрнатарам Рональдам Рэганам і былым паслом ЗША ў Кітаі ды ў Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў Джорджам Бушам. У прамовах перад удзельнікамі Канфэрэнцыі абодвы кандыдаты адзначылі нязвычайна вялікі ўклад, які зрабілі нацыянальныя арганізацыі ў будаўніцтва й рост Амэрыкі. Абодвы адзначылі імпэрыяльны характар Савецкага Саюзу ды ягоную палітыку экспаньсіі.

Рональд Рэган гаварыў, як пра вельмі важную акалічнасьць, пра патрэбу кантактаў Амэрыканцаў з краямі свайго паходжаньня. Гэтаксама Рональд Рэган падчыркнуў, што голас нацыянальнасьцяў паняволеных Расеяй народаў больш важны й мае больш сэнсу, чымся гаварыльня ў Нью Ёрку, званая „Задзіночанымі Нацыямі", дзе Саветы маніпулююць, як толькі хочуць.

Джордж Буш у сустрэчы зь беларускай групай сказаў, што ён ужо на працягу дзесяцёх гадоў сочыць за дзейнасьцяй гэтае групы й бачыць, як ён казаў, выдатныя вынікі як для Амэрыкі, гэтак і Беларусі.

Дзесятая Канфэрэнцыя рэспубліканскіх арганізацыяў прыняла шэраг важных рэзалюцыяў. У ваднэй зь іх выказваецца пажаданьне, каб нававыбраны прэзыдэнт Амэрыкі й ягоны ўрад дбалі пра справу свабоды народаў, якія абвесьцілі сваю незалежнасьць больш за 60 гадоў таму, як Армэнія, Беларусь, Грузія, дзяржавы Прыбалтыкі, Украіна, што знаходзяцца цяпер у складзе савецкае імпэрыі.

Беларускай дэлегацыяй было выстаўленае дамаганьне ўвядзеньня беларускае мовы ў праграмы радыяперадачаў „Голасу Амэрыкі".

**Вітаўт Зубкоўскі**

## ГОСЬЦЬ З АЎСТРАЛІІ

Ведамы беларускі дзеяч з Аўстраліі сп. Мікола Нікан наведаў свайго хворага брата ў Канадзе й там-жа сустрэўся зь Беларусамі ў Таронце, Бэры й Лёндане. У паваротнай дарозе ён затрымаўся на 5 дзён у Нью Ёрку й іншых гарадох ЗША, наведваючы сваіх сяброў і супрацоўнікаў. Сп. Мікола Нікан 30 травеня адляцеў у Аўстралію.

## В І Т А Е М!

У бягучым годзе ў Ньюёркаўскай мэтраполіі закончыла вышэйшую асьвету група беларуска-амэрыканскіх юнакоў. Іхныя імёны ведамыя беларускай эміграцыі із справаздачаў з розных нашых імпрэзаў, фэстываляў, канцэртаў, выставак, з рэпрэзэнтацыяў беларускае культуры на амэрыканскіх і міжнародных урачыстасьцях. Пры нагодзе заканчэньня імі ўнівэрсытэцкіх студыяў цікава ведаць аб выбраных імі прафэсіях і далейшых намерах.

Адзін зь іх **Багдан (Данчык) Андрусышын**, малады сьпявак-тэнар закончыў з Magna cum Laude Журналістычны факультэт Ньюёркаўскага Ўнівэрсытэту. Як найлепшы студэнт журналістыкі, ён прыняты ў сяброўства Phi Beta Kappa — New York University, у сяброўства Kappa Tau Alpha — журналістычнай асацыяцыі.

Апрача гэтага, ён атрымаў узнагароду David James Burrell у журналізьме ды ўзнагароду за навуку францускае мовы.

**Вера Запруднік** скончыла эканомію ў Квінс каледжы Унівэрсытэту гораду Нью Ёрк. Яна працуе ў сваёй прафэсіі супэрвайзэра ў магазыне спартовай вопраткі й з пачаткам школьнага году будзе прадаўжаць студыі эканоміі ў Барук каледжы эканамічных і гандлёвых навукаў ды рыхтаваць магістэрскую працу.

**Юрка Кіпель** закончыў Ратгэрс унівэрсытэт у штаце Нью Джэрзі. Ён спэцыялізаваўся ў матэматычных навуках і пэдагогіцы. З амэрыканскага скаўтынгу, у якім здабыў годнасьць „Скаўта Арла", ён вынес любасьць да працы зь дзецьмі й дапамагаць патрабуючым.

Супольна з Натай Русак, студэнткай Ратгэрс унівэрсытэту, арганізаваў танцавальны дзіцячы ансамбль „Матылькі", які ўдала выступае на нашых імпрэзах, ахвотнікам працаваў у хуткай дапамозе на ўнівэрсытэце й у сваім горадзе Рудэрфордзе ды ў транспарце ў школу калекіх дзяцей. Думае паступіць на мэдыцыну, а на летні час уладзіўся настаўнікам фізыкі ў сярэдняй школе.

**Юрка Андрусышын** пасьля сярэдняе школы адбываў вайсковую службу ў Корпусе марской пяхоты, там-жа скончыў адміністрацыйныя курсы, асабліва прыдатныя цяпер у ягонай грамадзкай працы. Юрка канчае факультэт палітычных навукаў на Калюмбійскім унівэрсытэце ў Нью Ёрку й з пачаткам новага навучальнага году будзе студыяваць права на Ўнівэрсытэце штату Вэрмонт.

Галоўная Ўправа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня вітае маладых працаўнікоў на беларускай ніве ў Амэрыцы й шчыра зычыць ім шчасьця ў васабістым жыцьці, далейшых посьпехаў у навуцы й грамадзкай працы для дабра беларускага народу!

**Антон Шукелойць**
**Старшыня Галоўнай Управы БАЗА**

**Чытайце, выпісвайце,**
**пашырайце газэту Беларусаў**
**у Вольным Сьвеце**
**„Б Е Л А Р У С"**

# ПЯЦЬДЗЕСЯТ ГОД ТАМУ...



**Чатырнаццацёхгадовая дзяўчынка Марыя Кіпель — удзельніца ведамага беларускага хору Ул. Тэраўскага ў 1918 годзе ў Менску**

Стук у дзьверы ўначы на 29-га чырвеня 1930 году застаецца ў памяці вось ужо 50 год і, відаць, гэтак і будзе зы мной да канца жыцьця. І, на мой пагляд, ня дзіва гэта. Ад таго незабыўнага, хай сабе й гэтак няпрыемнага мамэнту, часта-часта хочацца, каб ён быў забыты, жыцьцё маё дый тысячаў іншых блізкіх мне людзей, маіх сяброў, знаёмых, пайшло інакш, як мы плянавалі й лятуцелі.

А лятуцелі й плянавалі мы служыць Беларусі й будаваць Беларусь, і ўсё нашае йснаваньне вызначалася беларускім прагрэсам. І калі я ў памяці перабяру тыя кароценькія гады ад 1918 году, калі я чатырнаццацігадовай дзяўчынкай уступіла ў хор Тэраўскага, і да 1930 году, калі надыйшоў той сумны мамэнт, дык на цёмным фоне нялёгкага, ойжа-ж часамі й нялёгкага, даўгога жыцьцёвага шляху, тыя гады ўстаюць і аднаўляюцца як сьветлы й радасны мамэнт, які гэтулькі нам даў духовага задавальненьня, радасьці, прыемных успамінаў. Мы, маладыя, жылі зь Беларусяй. Усё вакол нас ставала беларускім: і менскае апалячанае й абруселае мяшчанства, хоць яно й супрацівілася, і мне было крыўдна за іх, бо я сама чысьцюсенькая мянчанка, і школьніцтва, зь якім я была зьвязаная перш як вучаніца, а потым як настаўніца, і адміністрацыя, і культура, і наагул усё, усё. Усё ставала беларускім, усе гаварылі пабеларуску, ды інакш яно не магло й быць, і Беларусь ставала на дзяржаўны шлях.

На гэты-ж пэрыяд прыпалі й, бадай, мае найлепшыя ўнівэрсытэцкія гады, і развой беларушчыны на ўнівэрсытэце, бурныя дыскусіі аб будучыні Беларусі, выхад Беларусі з маладняком на ўзвышшы сусьветнае літаратуры, а я была студэнткай літаратурналінгвістычнага аддзяленьня, і ўсё навакол нас жыло Беларусяй.

Нажаль, да болю й сьлёзаў, усё гэта засталося ў успамінах. Жыцьцё было наканаванае інакш. Ну што-ж! Змусілі нас пайсьці іншым шляхам. І хоць зьнішчылі шмат, прост цяжка й уявіць, як шмат, ды часам здаецца, што й незалячальна шмат, але пад старасьць усё здаецца чарнейшым, беларускага-ж духу ўсё-ж ня зьнішчылі дый ня зьнішчаць.

Тое, што сягоньня ідэя адраджэньня беларускае дзяржавы, нацыянальнае дзяржавы, а не таго расейскамоўнага эрзацу, які імкнецца рэпрэзэнтаваць Беларусь у Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў, пастаўленая на Захадзе, ды тое, што ў гэтым чырвонашчарнелым логаве, Маскве, спарадычна даюць дазволы на рэгабілітацыю (а фактычна-ж Масква дае гэтыя дазволы на рэгабілітацыю, і што, цікава, рабілася ў галовах і П. Глебкі, і П. Броўкі, калі ім давалі дазволы на рэгабілітацыю іхных старых сяброў і Скрыгана, і Баранавых, і Пальчэўскага й іншых?) — гэта довады, што Беларусь не загінула й крочыць наперад. (Дарэчы, П. Броўка, С. Баранавых, А. Пальчэўскі, А. Салагуб, А. Сідарэнка, У. Дуброўскі — гэта мае сувыпускнікі літаратурна-лінгвістычнага аддзяленьня пэдагагічнага факультэту БДУ выпуску 1931 году).

А цяпер крыху ўспамінаў, як нам, жонкам (а часта й бацьком і сваяком) арыштаваных паводзілася ў 1930 годзе „на волі".

У ноч з 28 на 29 чырвеня 1930 году да нас у дом № 6 на Горным завулку (якраз за вайсковымі могілкамі) рэзка пастукалі. Я адчыніла. Адхіляючы мяне ўбок, хутка ў хату ўварваліся (іншага слова я не знаходжу) чатыры чырвонаармейцы із стрэльбамі наперавес. Адзін зь іх загадаў нікому ня рухацца, а мне падаць „дамовую книгу". Устанавіўшы, хто Яўхім Кіпель, яго адлучылі й паставілі каля яго варту. Тады яны пачалі „шукаць", а фактычна гэта быў пагром. Трэсьлі гадзінаў пяць. Пэратрэсьлі ўсё ў хаце,ператрэсьлі сенцы, перавярнулі ўсё на гарышчы, у складзіку. Чаго шукалі — не казалі, а калі мы папыталіся — сказалі: „Молчать".

Нарэшце, калі ўжо пачынала сьвітаць, Яўхіму сказалі: „Одевайся, пойдем с нами", і павялі. Я выглянула ў вакно, у кірунку, дзе праходзіла Ямная вуліца (цяпер гэтае вуліцы, здаецца, няма, бо пасьля вайны былі пашыраныя могілкі), і пабачыла, як вялі Яўхіма: два жаўнеры наперадзе, два ззаду. Вось цяпер лаўлю сябе на думцы, што пазьней я ў яго ніколі не папыталася, дакуль яго вялі пехатою. Што прамільгнула ў маёй галаве за тыя пару гадзінаў — цяжка й успомніць і перадаць. Прыбіраючы пасьля пагрому хату, думалася, што гэта нейкая памылка, што днём усё высьніцца, што Яўхім вернецца. Але, з другога боку, пачынала я ўспамінаць, што Яўхім пару разоў мне перад тым казаў, што неяк у Акадэміі неспакойна, назіраюцца перамены ў адміністрацыі, перамянілі шмат адміністрацыі й на правінцыі. Мяне брала роспач: што я буду рабіць, літаральна на носе былі экзамены, трэба было памагаць бацьку, на руках было малое дзіцё. Аднак, я ўсё адганяла ад сябе, а думала — гэта памылка.

Нажаль, раніца прыйшла, я пабегла ў горад, цэлы дзень хадзіла па ўстановах і напрыканцы дня раптам усьведаміла: не, гэта не памылка, гэта жахлівая рэчаіснасьць, і мне страшна рабілася думаць аб нечым наперад. У мяне ясна паўстаў абраз: у тую ноч арыштавалі колькі сот людзей. Я бачыла іхных жонак, бацькоў і родных і каля міліцыі й каля розных камісарыятаў, і найбольш каля ГПУ. І каго толькі я не спаткала ў той дзень каля ГПУ! Там былі й людзі, зь якімі мы былі знаёмыя праз Акадэмію, знаёмыя з тэатру, журналістыя, пісьменьнікі й інш. Ува ўсіх некага ў тую ноч арыштавалі, забралі. Ясна, ніхто з намі ў той дзень не гаварыў, і я нічога нідзе не даведалася: дзе Яўхім, што будзе?

Ідучы позна дамоў, я аднак выкрышталізавала перакананьне, што гэта ня выпадкова, і што я сама мушу разьвязаць усе хатнія справы ды плянаваць далей. У наступныя дні, тыдні й месяцы, кола маіх знаёмых, якія арыштоўваліся, штораз пашыралася. У мяне-ж галава была заклапочаная, каб як-небудзь здаць экзамены ды знайсьці працу. Праўда, экзамены хутка скончыліся, я перайшла на апошні курс, але з працай было цяжкавата. Пераважна знаходзіліся колькі лекцыяў, як-бы сяньня сказала, „парттайм", аднак гэтага не ставала.

У міжчасе штодня хадзіла пад ГПУ, там ужо пад сярэдзіну ліпеня штодня стаялі тысячы людзей, каб даведацца, што зь іхнымі блізкімі. Аднаго дня я пастанавіла дачакацца чаргі да вакенца й можа даведацца, дзе-ж Яўхім. Было гэта недзе ў сярэдзіне ліпеня. І якое-ж было маё шчасьце, калі мне гэпэвушнік (ён навет мне здаўся прыветлівым!) сказаў, што „гражданин Кипель еще здесь", і я магу прынесьці „перадачу". Для мяне гэта была першая навіна аб мужу, і для мяне навіна гэтая была надзвычайная. Праўда, зрыхтаваць перадачу была справа ня лёгкая. Гэта ня так, што пайшоў у краму дый купіў, што трэба, зразумела, калі ёсьць за што купляць. Вось-жа перада мной стаяла справа, што й грошай было мала, і трэба было пашукаць, дзе купіць, бо ў крамах ,апроч камсы, тады нічога ня было. І пачала я абходжваць менскія рынкі, каб раздабыць харчоў на перадачу. На Чэрвеньскім рынку ўдалося купіць буханку хлеба, на Сураскім — хунт сала, тады на Камароўскім рынку, а гэта добрых кілямэтраў шэсьць ад Сураскага, мне пашчасьціла „дастаць" гародніцы. Аднак, я была вельмі шчасьлівая, што ўдалося склеіць перадачу.

Пазьней, нас, жонак, сабралася колькі разам: адна бегала па сала, другая шукала хлеба й г. д. Перадаваньне перадачаў — гэта быў бадай рытуал! Кажны стаяў у даўгой-даўгой чарзе, трымаў клуначак, і ў душы маліўся, каб прынялі. Бо ці раз бывала — прастоіш блізу дзень, а тады літаральна перад носам жаўнер ляпне вакенцам, і вось дзень і прапаў. Мне здаецца ,што ў тых жаўнэраў была моцная асалода бразгаць вакенцам, ды бразгаць моцна, каб рэха расходзілася! Калі перадачы перадаць не ўдавалася, бывала асабліва цяжка: яшчэ сала можна было датрымаць да наступнага тыдня, а вось хлеб, гародніну датрымаць было немагчыма — трэба было есьці ,а тады зноў шукаць, бегаць, шукаць.

І вось так цягнулася недзе месяцаў тры-чатыры. Аднойчы ў ГПУ мне сказалі, што мужа перавялі у турму. У турме й Яўхіма й бадай усіх арыштаваных „нацдэмаў" (тады, наколькі памяць, гэты тэрмін ужо прыняўся) пазбавілі права на перадачы, але мы ўсё спадзяваліся на „дабрыню" паняволынікаў і доўга яшчэ з клуначкамі прыходзілі пад турму. Часамі нас там, пад турмой, зьбіралася колькі сотняў, а гэта было ў цэнтры гораду, дык нас праганялі. Яскрава ў памяці стаяць перада мной, старэнькія ўжо тады і з клуначкам, бацькі сп. Ант. Адамовіча. Заўсёды яны прыходзілі разам, але й ім, мне здаецца, не ўдавалася перадаць перадачы.

Увосень стала горай: у мяне ня было зусім грошай, а працы на апошнім курсе ўнівэрсытэту было вельмі шмат, дык аб сталай працы ў школе не магло быць і мовы. Дарэчы, у гэты час пачынала ўжо быць цяжкавата ўладзіцца на працу. Як толькі даведваліся, што нехта арыштаваны як „нацдэм", стараліся ня зьвязвацца. Наагул, тагачасны Менск жыў у напружаньні, у няпэўнасьці, у нэрвовасьці. Хоць большая хваля арыштоў і прыпынілася пад канец лета, аднак чуткі плылі, што рыхтуецца вялікі працэс і што будуць арыштоўваць далей. На чарзе будуць жонкі, настаўнікі, пісьменьнікі. Цыркулявалі таксама чуткі, што шмат хто з арыштаваных прызнаўся быццам-бы ў „злачынствах" і што знайшліся сьветкі, што будуць сьветчыць, што арыштаваныя тварылі арганізацыю ды рыхтаваліся рабіць пераварот.

Мне ў гэты пэрыяд жылося надзвычай цяжка: ня было грошай, ня было бадай прадуктаў. Тут я мушу ўспомніць зь вялікай удзячнасьцяй, цяпер ужо нябожчыка, а тады заправўднага прыяцеля сем'яў арыштаваных, пісьменьніка Міхася Лынькова. Міхась Лынькоў у той час быў загадчыкам аднаго з аддзелаў Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва (БДВ). Хоць ён і добра ведаў, што я ды яшчэ іншыя (прозьвішчаў не называю знарок, бо некаторыя яшчэ жывыя ў Саюзе) жонкі арыштаваных (а зь Яўхімам Лынькоў знаўся ад 1920 году й у Менску яны часта спатыкаліся), аднак, калі-б да яго ні зьвярнуліся, дык заўсёды можна было атрымаць што-небудзь для перакладу. А зробіш пераклад — вось і капейка. і можна неяк перакідацца. І ў самыя цяжкія часіны Міхась Лынькоў нам памагаў. Вялікая яму падзяка й успамін! А часы-ж тады надыходзілі жудасныя. Людзі пакінулі выходзіць на вуліцы, каб не спатыкацца з тымі, у каго былі арыштаваныя, бо дапамагчы ніхто ня мог, а сябе на небясьпеку наражаў!

А жыцьцё йшло. Арыштаваных трымалі ў турме ,сем'ям нічога не казалі, настрой у Менску напружваўся далей. І раптам навіны: Купала хацеў скончыць самагубствам, застрэліўся Ігнатоўскі, сярод арыштаваных не знайшлося ніводнага. хто-б сьветчыў на судзе! Папаўзьлі новыя чуткі, што працэсу ня будзе. Для нас-жа „на волі" ўсёроўна нічога пэўнага ніхто не казаў. І раптам, калі я ў турме неяк дамагалася ўсё-ж нечага даведацца ,мне буркнулі, што „арестованного Кипеля здесь больше нет". Я ледзьве не самлела ад гэтае навіны, але калі я пачала дамагацца, а дзе муж, дык мне сказалі, што яго перавезьлі ў Бутырскую турму ў Маскву. Ня памятаю, як я дайшла дахаты й што рабіла ў той дзень.

Адно я тады добра ўцяміла, што мы ўсе спадзяваліся: непаразуменьні, хуткае вызваленьне й г. д. — толькі мара, рэчаіснасьць — гэта іншае. Масква беларускага ўздыму не пацерпіць — і перавоз „нацдэмаў" у Маскву — гэта толькі пачатак даўгога а даўгога цяжкога шляху. У той дзень я ў гэтым сама перад сабой перакаўналася й, як паказалі далейшыя падзеі, не памылілася.

Відавочна, што ў ніякую Маскву ня было гутаркі паехаць: ня было ні грошай ні патрэбы ,бо калі нічога нам не казалі блізу год у Менску, дык нічога-б не сказалі й у Маскве. І заставалася мне ды іншым маім сяброўкам неяк наладжваць нашае жыцьцё ды чакаць нейкага разьвязаньня. Было гэта недзе ў красавіку 1931 году. Аднак, і мне ня доўга давялося прабыць на Беларусі, бо ўжо на пачатку 1933 году ў часе пашпартызацыі таксама запрапанавалі выехаць зь Беларусі. Аднак аб гэтым варта будзе прыпомніць пры іншай нагодзе.

**Марыя Кіпель**

# У ПРЭЗЫДЭНТА ЗША ДЖЫМІ КАРТЭРА



**18 красавіка сёлета ў Белым Доме адбылося спатканьне Прэзыдэнта Джымі Картэра з прадстаўнікамі нацыянальных групаў Амэрыкі. Мэтай спатканьня было інфармаваньне Прэзыдэнта ЗША аб палітычных настроях нацыянальных групаў. Тады-ж былі перададзеныя Прэзыдэнту Джымі Картэру Д-рам В. Кіпелям дакумэнты аб перасьледваньні іншадумцаў у БССР.**

# 200 БЕЛАРУСКІХ РАДЫЯПЕРАДАЧАЎ У СЫДНЭІ

Два гады таму я пісаў у „Беларусе" пра першую сотню беларускіх радыяперадачаў праз этнічную станцыю ЧЭА ў Сыднэі. Сяньня-ж з радасьцяй хачу паведаміць, што ў аўторак 22 красавіка пайшла ў эфір двухсотая беларуская праграма. Хіба ня выпадкова, юбілейная перадача была прысьвечаная двум вялікім сыном нашага народу. Францішку Скарыну й гэрою космасу Пётру Клімуку. Абодвы нарысы былі цікавыя й зьмястоўна інфармацыйныя.

Пачаўшы 21 чырвеня 1976 году, нашыя праграмы чуваць штодзённа. Да травеня мінулага году яны былі паўгадзіннымі, а ад гэнага часу трываюць цэлую гадзіну й перадаюцца кажны аўторак ад 8:15 да 9:15 гадзінаў вечарам. Абсяг перадачаў таксама павялічыўся, бо цяпер чуюць іх у Ньюкастэлі (жыхарства 250 тысячаў, 160 кілямэтраў ад Сыднэю) і ў Вулёнгонг (жыхарства 130 тысячаў, 90 клм. ад Сыднэю). Слухаюць нашыя перадачы Украінцы, Палякі, Расейцы й паўдзённыя славяне. Тэматыка перадачаў вельмі багатая й разнастайная. Рэдакцыя тэкстаў вельмі добрая, хаця музыка часамі ня зусім дастасаваная да кажнай нагоды. Палітычна Беларускі Радыёвы Камітэт стаіць на бескампрамісова незалежніцкім грунце.

Вялікую падзяку й прызнаньне трэба выказаць каардынатару сп. Аркадзю Качану й дыктарам сп-ні Аўгені Каранеўскай і сп. Міхасю Лужынскаму за іхную ахвярную працу й глыбокае пачуцьцё грамадзкага абавязку. На заканчэньне хачу сказаць: Сто год Вам нашая ТРОЙКА! Да спатканьня на пяцісотай перадачы!

**Хв.**

# СУСТРЭЧА З Э. ЦЯЎЛОЎСКІМ

Супрацоўнік газэты „Беларус" д-р Эміль Цяўлоўскі, які жыве ў Буэнос Айрэсе (Аргентына), наведаў у травені Нью Ёрк з нагоды свайго ўдзелу ў канфэрэнцыі ў Вашынгтоне, сустрэўся із супрацоўнікамі беларускіх арганізацыяў Нью Ёрку. Д-р Цяўлоўскі, адзін з арганізатараў славянскае гуманістыкі на Каталіцкім Унівэрсытэце ў Буэнос Айрэсе, былы выкладчык там і сакратар славістычнага аддзелу, апрацоўвае цяпер сэрыю артыкулаў зь гісторыі беларускае літаратуры, якія друкуюцца ў славянскім часапісе „Мэдоб'е" („Паміж Вякамі"), што выходзіць у Буэнос Айрэсе пад рэдакцыяй праф. Валентына Дэбэляка, даўнага прыяцеля Беларусаў.

**Міжнародная Арганізацыя Працы заявіла Савецкаму Саюзу,а таксама Беларускай і Украінскай савецкім рэспублікам ды Чэхаславаччыне,** што іхнае заканадаўства, паводля якога праца становіць маральны абавязак грамадзяніна, супярэчыць міжнароднай канвэнцыі, якая забараняе прымусовую працу. Міжнародная Арганізацыя Працы заклікала ўрады вышэй названых дзяржаваў парабіць зьмены ў сваім заканадаўстве ў вадпаведнасьці зь міжнароднымі канвэнцыямі.

# ЯШЧЭ АБ ПАПЯРОВЫМ ІМПЭРЫЯЛІЗЬМЕ СУСЕДЗЯЎ У ЭМІГРАЦЫІ

А. Будзіч у сваім артыкуле „Папяровы імпэрыялізм суседзяў у эміграцыі" („Беларус", № 248 за сьнежань 1977) пісаў аб прэтэньсіях польскага экзыльнага ўраду ў Лёндане на палавіну Беларусі, выказаных ім у ягонай заяве ад 6 кастрычніка 1977 году й апублікаванай 29 кастрычніка 1977 г. у польскай газэце „Час", што выходзіць у Канадзе, а таксама аб падпісаньні 12 лістапада гэнага-ж году Прэзыдэнтам Украінскае Народнае Рэспублікі ў экзылі Міколам Лявіцкім і Прэзыдэнтам Вярхоўнага Камітэту для Вызваленьня Лятувы К. Валюнасам новай украінска-лятувіскай умовы.

Цяпер даведваемся, што нядаўна, 28 лістапада мінулага году, у Лёндане была падпісаная польска-ўкраінская дэклярацыя салідарнасьці (гл. польскі парыскі часапіс „Культура", № 1/388 — 2/389, 1980, бач. 216). З польскага боку дэклярацыю падпісалі Прэзыдэнт Польскае Рэспублікі ў экзылі Эдвард Рачынскі (б. шматгадовы перадваенны польскі дыплямат, амбасадар у Вялікабрытаніі й міністар замежных справаў польскага экзыльнага ўраду), прэм'ер-міністар ураду К. Сабат і Т. Ляско за міністра замежных справаў, а ад Украінцаў — Прэзыдэнт Украінскай Народнай Рэспублікі ў экзылі Мікола Лявіцкі, прэм'ер-міністар ураду УНР д-р Т. Леонтый і міністар замежных справаў праф. Яраслаў Рудніцкі.

Дэклярацыя сьцьвярджае, што супольная мэта вызваленьня ад прыгнёту савецкага імпэрыялізму стварае зьвязы салідарнасьці між народамі пад дамінацыяй Масквы, якія імкнуцца здабыць у змаганьні собскую свабодную й незалежную дзяржаву. Асноўны пункт дэклярацыі сфармуляваны гэтак: **„Жыцьцёвыя інтарэсы польскага й украінскага народаў, якія ад вякоў жывуць пасуседзку, а сяньня пазбаўленыя свабоды й незалежнасьці, вымагаюць здабыцьця й трывалага забясьпечаньня дзяржаўнага жыцьця свабодных і незалежных народаў Польшчы й Украіны".**

Гэтую дэклярацыю, якая ёсьць бадай, ці ня першым важным пазытыўным крокам наперад у польска-ўкраінскіх дачыненьнях, трэба было- б адно прывітаць, калі-б заміж сумлеву, — які ўзьнікае, калі прыгадаць ранейшыя заявы польскага экзыльнага ўраду, — была ўпэўненасьць, што яна зусім шчырая, калі ход пра польскі бок. Нельга забывацца, што ня гэтак даўно папярэднік цяперашняга польскага прэзыдэнта ў экзылі праф. Станіслаў Астроўскі й ягоны ўрад у згаданай вышэй заяве, пра якую пісаў А. Будзіч, выразна й катэгарычна дамагаліся звароту Польшчы ня толькі незалежнасьці, што зразумела, але яшчэ й „Усходніх Земляў Рэчыпаспалітай", г. зн. былых Заходняй Беларусі й Заходняй Украіны.

У гэтай заяве сказана яшчэ, што **„галоўнай мэтай польскага народу, в тым самым задзіночанага палітычнага асяродку польскае эміграцыі"** ёсьць ня толькі гэтыя дамаганьні, але й **„таксама ўмацаваньне граніцы на Одры й Нысе Лужыцкай"** дзеля захаваньня панямецкіх Земляў Заходніх, прылучаных да Польшчы пасьля Другое сусьветнае вайны. Паўстае пытаньне, як можна змагацца супольна й салідарна із суседнімі народамі Польшчы супраць чырвонага савецка-маскоўскага імпэрыялізму, прэтэндуючы адначасна на землі гэтых народаў? Найвыдатнейшы польскі эміграцыйны палітычны публіцысты Юльюш Мерашэўскі вельмі слушна ў свой час пісаў: **„... Ня можам гарлапаніць, што Расейцы павінны зьвярнуць Украінцам Кіеў і адначасна заяўляць, што Львоў павінен быць зьвернуты Польшчы"** (артыкул „Расейскі камплекс польскі' й абшар УЛБ", „Культура", № 9/934, 1974).

У часе Другой сусьветнай вайны польскі экзыльны ўрад у Лёндане, калі на чале яго стаяў генэрал Уладыслаў Сікорскі й пазьней, разглядаў былыя Заходнюю Беларусь і Заходнюю Ўкраіну як інтэгральную частку Польшчы й спадзяваўся, што гэтыя тэрыторыі пасьля яе ўзноў будуць у ейных межах. Галоўны штаб польскай падпольнай Арміі Краёвай насылаў з Варшавы й перакінутых зь Лёндану ахвіцэраў на Віленшчыну й Наваградчыну з мэтай арганізаваньня польскіх партызанскіх аддзелаў, якія мелі заданьне замацоўваць гэтыя землі за будучай Польшчай як „польскі стан пасяданя". Польскія партызаны дзеілі таксама й на ўкраінскай Холмшчыне.

Як ведама, польскія перадваенныя ўлады ня толькі не далі Беларусам і Ўкраінцам на іхнай собскай этнічнай тэрыторыі культурнай аўтаноміі (да чаго Польшча была забавязаная Лігай Народаў), ня кажучы ўжо пра палітычную, але ўсякімі спосабамі нішчылі найменшыя праявы беларускага нацыянальнага жыцьця (школьніцтва, грамадзка-палітычныя й культурна-асьветныя арганізацыі). Урад лібэрала Сікорскага ,палітычнага супрацоўніка Пілсудзкага й санацыі, у руках якой была ўлада ў перадваеннай Польшчы, лічыўся ўрадам дэмакратычным, прынамся ён сам сябе за такога ўважаў. Ён, хоць і ня шмат, але ўсё-ж розьніўся ад перадваенных польскіх санацыйных урадаў, галоўным чынам тым, што ў ягоны склад уваходзілі ,апрача асобаў перадваеннага аўтарытарнага рэжыму (пілсудчыкаў), прадстаўнікі апазыцыйных перад вайной партыяў. Такі ўрад павінен быў-бы ня толькі лічыцца з нацыянальнымі імкненьнямі Беларусаў і Ўкраінцаў, землі якіх ён хацеў мець пасьля вайны ў складзе сваёй дзяржавы ўзноў, але й ставіцца да іх і іхных людзкіх, грамадзянскіх і палітычных правоў пазытыўна.

А як было ў запраўднасьці, як гэты ўрад уяўляў сабе разьвязаньне нацыянальнага пытаньня ў польскай пасьляваеннай дзяржаве? Як ён хацеў, і ці хацеў наагул, знармалізаваць дачыненьні зь Беларусамі й Украінцамі? Якія былі ў яго на гэта пляны? Ці выпрацоўвалася ім якая-небудзь праграма? На гэтыя пытаньні дае адказ ведамы польскі палітычны дзеяч і публіцысты Адам Цёлкаш, адзін з правадыроў Польскай Партыі Сацыялістычнай (ПСС) і былы сябра польскай экзыльнай Нацыянальнай Рады ў сваім вялікім артыкуле пад загалоўкам „Карткі зь мінуўшчыны", апублікаваным у вапошняй (51-ай) кнізе польскага квартальніка „Зэшыты Гісторычнэ" („Гістарычныя Сшыткі"), што выходзіць у Парыжы. Пра гэты артыкул у заўвазе рэдактара „Гістарычных Сшыткаў" сказана, што гэта ёсьць **„апошняя большая праца Адама Цёлкаша, якую ён напісаў перад сваёй сьмерцяй".**

Аўтар у сваёй працы піша, што ўрад Сікорскага ў кастрычніку 1941 году стварыў Камісію Дзяржаўнага Ладу пры Старшыні Рады Міністраў. На старшыню гэтай Камісіі ген. Сікорскі паклікаў праф. Станіслава Грабскага. Камісія ў хуткім часе падрыхтавала дакумэнт пад загалоўкам „Прынцыпы будучага дзяржаўнага ладу Польшчы", які ўвайшоў на парадак дня 5-га паседжаньня Нацыянальнай Рады дня 19 сакавіка 1942 г. Адам Цёлкаш выказваецца аб ім гэтак: **„Праект Грабскага, які складаўся з 74-ох параграфаў, быў скандальным і выклікаў агіду перадусім сваёй маной".** З аднаго боку было сказана ў ім, што дзяржаўны лад Польшчы ня можа быць ладам таталітарнай дзяржавы, але з другога — што ён таксама ня можа быць ладам **„дзяржавы, кіраванай парлямантам"**, бо як нутраныя, гэтак і вонкавыя абставіны паваеннай Польшчы будуць вымагаць **„сільнай выканальнай улады..."** У параграфе першым праекту Камісіі праф. Грабскага было сказана, што **„вярхоўная ўлада ў Польскай Дзяржаве паходзіць ад Народу". „Не належыць да народу,** — піша Цёлкаш, — а **„паходзіць ад народу"**, што паводля яго, **„магло адно значыць, што польскі народ можа сувэрэнную ўладу, якая належыцца толькі яму, перадаць некаму іншаму, канкрэтна — каралю".**

Праф. Грабскі ўважаў, што польскія сялянскія й работніцкія масы ня ёсьць палітычна выробленыя й таму паводля ягонага праекту іхны ўдзел у жыцьці дзяржавы павінен быць абмежаваны да самаўрадавых ворганаў: гмінных (валасных) управаў і радаў, магістратаў і гарадзкіх радаў, сельска-гаспадарскіх і прамыслова-гандлёвых, рамесьніцкіх і работніцкіх палатаў, сельска-гаспадарскіх таварыстваў і шэрагу ўжо існуючых і спэцыяльна на гэта паклікаяных каапэратыўных саюзаў, якія будуць найлепшай школай грамадзянскай культуры для гэтых масаў.

Далей у артыкуле Цёлкаша чытаем пра нядэмакратычны характар іншых параграфаў праекту праф. Грабскага. **„Але гэта** — піша аўтар — **былі праблемы ў дзесяць разоў меншыя ў параўнаньні з праблемай нацыянальнай, вялікай і нажаль да канца міжваеннага пэрыяду неразьвязанай праблемай. Як гэтую праблему хацела разьвязаць камісія праф. Грабскага ў тым пэрыядзе, калі Масква штораз больш напорыста выказвала свае прэтэньсіі на тэрыторыі, захопленыя на моцы ўмовы Рыбэнтроп-Молатаў? Скажам адразу, што старалася разьвязаць яе як найгорш, спосабам, які не вагаюся назваць злачынным".**

Арганізацыя дзяржаўнай адміністрацыі паводля праекту мела быць надалей адналітай, **„аб'еднаньне некалькіх ваяводстваў у правінцыі трэба лічыць непажаданым"**, — сказана ў ім, — **„такім чынам** — піша Цёлкаш — **тэрытарыяльная аўтаномія для земляў, дзе бальшыню становяць Украінцы й Беларусы, ня прыймаецца пад увагу..."**

Аўтар далей піша аб тым, што сыстэма выбараў у сойм, і асабліва ў мясцовыя самаўрады (гмінныя, павятовыя й ваяводзкія) на няпольскіх землях паводля праекту праф. Грабскага мелася быць адменнай і ў дачыненьні да няпольскага жыхарства несправядлівай. Яна штучна давала прывілеі Палякам там, дзе яны былі ў меншыні. Палавіна паслоў (дэпутатаў) сойму з усходніх ваяводстваў (г. зн. ад беларускіх і ўкраінскіх земляў) павінна была быць польскай ,а таксама найменш палавіну месцаў у ваяводзкіх сойміках у гэтых ваяводствах мелі займаць Палякі, а другую палавіну сяброў гэтых соймікаў мелі выбіраць ізноў па палавіне: асобна польскія й асобна няпольскія сябры павятовых і гарадзкіх радаў, прычым кажны з галасуючых мог аддаваць голас толькі на палавіну кандыдатаў у сваёй нацыянальнай групе сяброў сойміку. Застаецца загадкай, якім чынам маглі-б быць выбраныя польскія кандыдаты ў гмінныя (валасныя) рады там, дзе зусім няма польскага жыхарства, бо, як піша Цёлкаш, **„з пустога й Салямон не нальле". „Адмова ўкраінскаму, беларускаму й лятувіскаму жыхарству права на ўдзел у жыцьці самаўрадавых ворганаў у прапорцыі, якая вынікае з запраўдных судачыненьняў этнічных сілаў, і дыскрымінацыя гэтага жыхарства на карысьць жыхарства польскага, а таксама канстытуцыйная гарантыя польскаму этнічнаму элемэнту палавіны месцаў у ўсходніх ваяводствах у выбарах у сойм, была-б наймацнейшым ударам у справу пасьляваеннага павароту Польшчы да граніцаў Рыскага трактату"** — піша Цёлкаш.

А якія-ж правы польскія эміграцыйная палітыкі зьбіраюцца даць няпольскім народам, якіх яны не называюць народамі, а **„нацыянальнымі меншынямі"**, у галіне іхнае мовы й нацыянальнай культуры? У параграфе 68-ым праекту сказана: **„Кажны грамадзянін мае права захоўваць сваю нацыянальнасьць, культываваць сваю мову й нацыянальную апрычонасьць. Нацыянальным меншыням, ляяльна выконваючым свае абавязкі ў дачыненьні да Польскае Дзяржавы, даецца магчымасьць свабоднага разьвіцьця іхнага жыцьця й нацыянальных асаблівасьцяў".**

Вось як! Адам Цёлкаш піша, што: **„... калектыўная адказнасьць, у тым ліку таксама адказнасьць групаў этнічных (г. зн. нацыянальных меншыняў) у цывілізаваных дзяржавах ня існуе. Каміся праф. Грабскага** давала меншыням **магчымасьць свабоднага разьвіцьця жыцьця й нацыянальных асаблівасьцяў у залежнасьці ад ляяльнага выконваньня імі іхных абавязкаў перад Польскай Дзяржавай, не ўдакладняючы пры гэтым, хто й як меў ацэньваць паводзіны гэтых меншыняў і рабіць адпаведныя высновы".** Праект камісіі праф. Грабскага ён у канклюзіі назваў адным словам: "horrendum" (скандал!).

Вось якія ў часе мінулае вайны рыхтаваліся даць нацыянальныя „правы" амаль палавіне беларускага народу польскія палітыкі ў Лёндане!

Польскі экзыльны ўрад у Лёндане неаднаразова ў мінулым заяўляў свае прэтэньсіі на „Ўсходнія Землі Рэчыпаспалітай". Ня было чуваць, каб цяперашні польскі прэзыдэнт у экзылі й ягоны ўрад ад гэтых прэтэньсіяў адмовіўся. Палякі надалей застаюцца вернымі самім сабе **„нявылячальнымі фантастымі".**

**Уладзімер Брылеўскі**

# УГОДКІ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ Ў МОНТРЭАЛІ



**Ведамы сьпявак Данчык Андрусышын цешыць прысутных беларускімі народнымі песьнямі**



**У часе пяяньня беларускага нацыянальнага гімну**

Сьвяткаваньне 62-іх угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі было зладжанае Згуртаваньнем Беларусаў у Монтрэалі (Канада) ў нядзелю 20-га красавіка сёлета.

Тое, што перадусім кідалася ў вочы нова прыбылым, гэта вялікая колькасьць прысутных — шмат зь іх прыбыла з адлеглых куткоў Кзібэку й Антарыя. Адчувалася, што гэта адна вялікая дружная сям'я, злучаная магутнай патрыятычнай ідэяй ды супольным жаданьнем узапраўды на ўзроўні зарганізаванага сьвяткаваньня.

Дык і праграма аказалася прапарцыянальнай да ўкладзеных натугаў. Урачыстая акадэмія была адчыненая „гаспадаром" імпрэзы сп. А. Хрэноўскім. Пасьля беларускага нацыянальнага гімну быў прачытаны ўзапраўды цікавы рэфэрат сп. Я. Сурвілам. Тады д-р Мікола Шчорс, прыбылы із ЗША, у сваёй даўжэйшай гутарцы затрымаўся на нашых актуальных патрэбах і абавязках. Сп. Я. Скурат гаварыў на тэму: „Сяньняшнія сьвяткаваньні нацыянальных угодкаў — частка гісторыі, неабходнай для будучай незалежнасьці Беларусі".

Таксама вельмі багатай была праграма мастацкай самадзейнасьці. Дэклямацыі: Данчык Андрусышын „Хрыстос Уваскрос" Сяргея Палуяна; Г. і Л. Хрэноўскія — верш Алеся Гаруна „Ты мой брат, каго зваць Беларусам"; А. Абудзінская — верш Янкі Купалы „Над Нёманам"; Р. Хрэноўскі — верш Янкі Купалы „Моладзі"; А. Хрэноўскі — верш Максіма Багдановіча „Пагоня".

Ня была абмінута й музычна-вакальная частка. І так: Г. і П. Сурвілы прапялі „Люблю наш край" на словы Канстанцыі Буйлы; А. Хрэноўскі выканаў на акардэоне „Васілёчкі"; Данчык Андрусышын выканаў пяць народных песьняў: „Ручнікі", „Беларусачка", „Мой родны край", „Хлопец з дуру ажаніўся" й „У полі вярба".

Не абышлося й бяз выстаўкі беларускага народнага мастацтва. Яна складалася з працаў сп-ні Юлі Андрусышынай, дываноў (посьцілак) сп. Белмач і дываноў сп-ні А. Савёнак.

Праграма, як не багатая, была-б ня зусім камплетная, калі-б не закончылася пачастункам, які складаўся зь віна й рознага ды вельмі смачнага печыва хатняга вырабу. Усё гэта заўдзячваецца працавітым беларускім гаспадыням сп-ням Хрэноўскай, Бельмач, Галавач, Лагодзіч ды спадарству Абудзінскім.

Сьвяткаваньне закончылася канадыйскім нацыянальным гімнам.

**Я. Скурат**

# ЖАДАНЬНЕ ЖЫХАРОЎ МЕНСКУ...

(Заканчэньне з 4-ай бачыны)

рапісной анкеце ставіцца рубрыка пра родную мову, калі адказы на гэтую рубрыку не бяруцца на ўвагу ў школьнай палітыцы ўраду? Цікава было-б папытацца ў Міністэрстве асьветы БССР, якім гэта парадкам сталася, што школьная палітыка ў Менску гэтак груба ігнаруе стаўленьне ладнае часткі жыхароў гораду да свае роднае мовы.

Што-ж да запраўднага жаданьня жыхароў-Беларусаў гораду Менску ў справе мовы навучаньня іхных дзяцей, дык трапны адказ на гэтае пытаньне можна знайсьці — не, ня ў бюры партыйнае прапаганды, а ў вершы Васіля Зуёнка „Спроба трактату ‚Адкуль Гомо Сап'енс' ", што быў выдрукаваны ў лютаўскім нумары за 1977 год часапісу „Маладосьць". У Зуёнка, праўда, гутарка не пра дзяцей менскіх Беларусаў, а пра буськянятаў, але ў дадзеным выпадку гэта тое самае:

Ня верыцца...
Няўжо бусьляняты аб'еліся
блёкату,
Што разумець не жадаюць
бацькоўскага клёкату?
Не дапускаю.
Магчыма, і ёсьць сымптомы,
Ды птушкі тут ні пры чым,
вядома.

Але-ж! У тым, што дзеці менскіх Беларусаў змушаныя навучацца ў школах зь нябеларускаю моваю навучаньня, „бацькі тут ні пры чым, вядома".

**Арсень Загорны**

 



# ШТО ЧУВАЦЬ?

**Дзьвесьце Беларусаў і Расейцаў у Менску падалі заявы на эміграцыю дзеля палітычных матываў,** — паведаміла Л. Драздова ў лістападзе летась зь Вены, куды яна прыбыла зь беларускае сталіцы ў якасьці палітычнай эмігранткі. Драздова напісала ў расейскі часапіс „Посев", каб „расказаць, у якім стане знаходзяцца праваабаронцы на Беларусі ды папрасіць дапамагчы тым, хто, рызыкуючы жыцьцём, ідзе на няроўнае змаганьне з уладамі супраць беззаконьня й самаволі".

Карэспандэнцыя Драздовай зьмешчаная ў трэйцім сёлетнім нумары „Посева" (бб. 58-59). Сярод прозьвішчаў праваабаронцаў Драздова называе й Міхала Кукабаку.

**Кангрэсмэнка зь Нью Джэрзі Мілісэнт Фэнўік** у дзень малітвы за Беларусь у Кангрэсе ЗША (26 сакавіка сёлета), прыймаючы падарунак ад дэлегацыі БАЗА (вышываны беларускім народным арнамантам альбом), сказала: „Навет каб я ня ведала, ад якое нацыянальнасьці гэты падарунак, я адразу-ж, зірнуўшы на арнамант, пазнала-б, што гэта беларускі альбом, бо я маю ў сябе іншы, вельмі дарагі падарунак — картачку, якую жанчына ў менскай турме вышыла беларускім арнамантам ды пераслала яе мне".

**Сьветчаньне Міхала Кукабакі пра савецкія псыхіятрычныя турмы** зьмешчанае ў кнізе амэрыканскага прафэсара Гарві Фаерсайда. Кніга пад загалоўкам „Савецкія псыхатурмы" выйшла летась у Нью Ёрку й Лёндане ў выдавецтве Нортан энд Компаны. Дзесяць бачынак кнігі (173-183) займае апісаньне Кукабакам ягонага побыту ў спэцпсыхшпіталі (або „Дурдоме") ў Сычоўцы, у г. зв. Інстытуце Сербскага, дзе трымаюць палітычных апазыцыянэраў пад прыклепам, што яны ненармальныя людзі. Міхал Кукабака прабыў там шэсьць гадоў. Прафэсар Фаерсайд падаў таксама біяграфічную даведку пра Кукабаку, піша пра ягонае беларускае паходжаньне ды падае гісторыю ягоных перасьледаў.

**Рэпрадукцыю паштоўкі Міхала Кукабакі** й тэкст Кукабакавае заявы аб адмове ад савецкага грамадзянства ды з просьбай яму выехаць із Савецкага Саюзу зьмясьціў выдаваны ў Нью Ёрку часапіс „Факты и Мысли" (№ 18 за сакавік 1980 г.). Там-жа зьмешчаныя й два нарысы Юркі Стукаліча (Віцьбіча): „Вышэй галаву, Дубавеці!" і „Яна была ў Магілеве" (парасейску).

*ЗАМІЖ ФЭЛЬЕТОНУ*

# КАЛІ ЗЛАДЗЕІ ПРЫ УЛАДЗЕ...

Менскі часапіс „Беларусь" за сакавік сёлета зьмяшчае вялікі артыкул геалёга В. Шыдлоўскага пад загалоўкам „Скарб неацэнны".

„Апошнім часам даволі часта ў нашым друку закранаецца пытаньне аб захаваньні помнікаў гісторыі й матар'яльнай культуры мінулых часоў беларускага народу — прадметаў побыту й хатняга ўжытку, прыладаў і мэханізмаў гаспадарчага прызначэньня. Галоўная задача гэтага збору—навуковае вывучэньне помнікаў культуры, іх прапаганда, увядзеньне ў арсэнал сучаснай культуры," — пачынае В. Шыдлоўскі.

Трэба згадзіцца, добра што пытаньне такое закранаецца. Ну й якія-ж вынікі?

„Аднак варта адразу сказаць: гэтай справай у нашай рэспубліцы ніхто (або амаль ніхто) не займаецца. Я маю на ўвазе адпаведныя ўстановы, органы й арганізацыі, якія павінны былі-б узяць арганізаваны й мэтаскіраваны збор помнікаў у свае рукі".

Павінны былі-б... але не бяруць. Аўтару, пэўне-ж, ведама, што тыя „ўстановы й органы" надта занятыя ў зонах і за межамі іх, што яны, пэўне-ж, занятыя рознымі „курганамі славы" й іншымі „абэліскамі", якімі зьнявечылі ўсю Беларусь. А сёлета, пэўне-ж, органы гэныя прыпрэжаныя ў сьвяткаваньне 110-ых угодкаў „вялікага й геніяльнага" Ільіча.

Шыдлоўскі затрымліваецца на дэталізацыі розных помнікаў матар'яльнага быту, паказвае як трэба было-б іх зьбіраць, бо, бачыце, „Працэс зьнікненьня (гэных помнікаў — К. А.) уступіў у завяршальную фазу". І гэтта Шыдлоўскі тыцкае пальцам у тых, якім трэба было-б даўно заняцца так важнай справай. „Настаў час зьвярнуцца адпаведным установам у Вярхоўны Савет БССР з хадайніцтвам аб асыгнаваньні сродкаў на справу зьбіраньня й захоўваньня гэтых помнікаў".

Ведама-ж, Вярхоўны Савет БССР і іншыя целы маскоўскае каляніяльнае адміністрацыі, што пыхцяць адданасьцяй да „ленінскай роднай партыі", ня маюць на гэта часу, да таго-ж і першым заданьнем іх ёсьць абкраданьне паняволенага народу з матар'яльнага дабра, у тым ліку й з помнікаў культуры. І штож робіцца? Хто-ж займаецца гэнымі помнікамі? Выглядае, што зладзеі. Гэтта варта ўважней прыслухацца да скаргаў Шыдлоўскага:

„Асобна хачу сказаць пра катэгорыю людзей, што крадуць і рабуюць, а разом з тым і псуюць помнікі культуры народу, культавыя помнікі й будынкі. Кожны зь іх ведае, што з куфраў грамадзян нічога ня выцягнеш, ня рызыкуючы трапіць на лаву падсудных. Таму яны падрапежніцку кідаюцца на тое, што нібыта нікому не належыць: рабуюць цэрквы, касьцёлы, капліцы, могілкі, магілы, надмагільныя помнікі, псуюць іх. Такі рабаўнік, калі ён матарызаваны, дапінае ў самыя глухія куткі. Там-сям на могілкі цяжка глядзець: расьпяцьці павыдзіраны, крыжы з помнікаў выламаны... Гэты вандалізм выкліканы адсутнасьцяй элемэнтарнага чалавечага сумленьня й культуры. Ён зроджаны данінай таннай модзе, жаданьнем, што-б там ні стала, мець прадметы культу. Злачынная дзейнасьць такіх вось „аматараў" мае месца з-за абыякавасьці мясцовых уладаў.

У многіх мясьцінах ніхто ня сочыць за парадкам на могілках і ў будынках культавага прызначэньня. Згадаю, як у касьцеле ў Засьвіры, што на Мядзельшчыне, была абрабаваная магіла Адама, самародка, які выйшаў з народу. Гісторыя Адама яскрава апісаная ў легэньдзе, пададзенай Пятром Шаўцовам у кнізе „Спрадвечнае". Паводля зьвестак аўтара, „набальзаміраваную (хіба-ж набальзамаваную — К. А.) мумію Адама мясцовыя жыхары перахоўвалі ў часы першай і другой Айчынных войнаў. У наш-жа час труну абрабавалі, а мумію выкінулі. Гадоў пяць-шэсьць назад гэтая мумія доўга валялася ў сьмецьці ў зачыненым ці, больш правільна сказаць, — рашчыненым касьцёле, выклікаючы дакор і справядлівае абурэньне мясцовых жыхароў і нагул усіх, хто гэта бачыў. Мядзельскія-ж улады нічога не зрабілі, каб знайсьці вінаватых..."

Далей Шыдлоўскі прыводзіць прыклады „блазнаваньня, якое мяжуе нярэдка з падсудным хуліганствам". Тут ідзе галоўна пра розныя брудныя напісы на капліцах, цэрквах, касьцёлах. Хуліганы пры ўладзе, хуліганы й пад уладай. Груган гругану вока ня выдзяўбе. А можа ўлады занятыя аховай важнейшых помнікаў, прыкладна тых, што зьвязаныя з жыцьцём вялікіх людзей беларускага народу.

„Афіцыйны захавальнік дому Ф. Багушэвіча ў Кушлянах — Міхаіл Сямёнавіч Ляпека стараецца захаваць на сядзібе ўсё так, як было пры жыцьці пісьменьніка. На гэтай сядзібе ёсьць альтанка, у якой вісеў крыж з расьпяцьцем, зроблены самім Багушэвічам ці, прынамся, яго бацькам. Міхаіл Сямёнавіч рашыў здаць яго для рэстаўрацыі ў майстэрню Дзяржаўнага музэю Беларускай ССР. З майстэрні крыж чамусьці трапіў у гэты музэй, а адтуль зьнік нямаведама куды. Колькі Міхаіл Сямёнавіч ні прыяжджае ў Менск, каб забраць яго, расьпяцьце як у ваду канула..."

Нічога сабе „рэстаўратары", ды яшчэ й зь дзяржаўнага музэю. Можа крыж з расьпяцьцем „кануў" у тую самую ваду, у якой некалі зьнік, і цэнны ды незаменны скарб беларускага народу, крыж Сьвятой Афрасіньні Полацкай?

Баліць Шыдлоўскаму й ганьбаваньне беларускае тапанімікі. „Тут варта ўзяць прыклад з масквічоў", — засьцерагаецца аўтар. Як-жа ня ўзяць? А на каго-ж паклікацца? Калі-б ня гэты прыклад, дык табе бадай і згадаць пра варожае ганьбаваньне беларускіх каштоўнасьцяў не далі-б... „Яны (гэта значыць масквічы — К. А.) вельмі даражаць даўнымі назвамі: Чарамушкі, Хімкі, Дамадзедава, Астанкіна... Праўда, апошнім часам сталі ашчадней ставіцца да старых назваў і ў Менску. Такія раёны гораду, як Серабранка, Грушаўка сталі афіцыйнымі. Але разам з тым — Усход І, Усход ІІ і г. д. (А не „Восток"? — К. А.). Такія-ж калярытныя гістарычныя назвы, як Чырвонае Урочышча, Ляхаўка, Старажоўка, Камароўка, Залатая Горка, Кашары, Троіцкая Гара, Пярэсна, Тры Карчы зьніклі зусім. А шкада".

Забыўся Шыдлоўскі згадаць, што мясцовыя партыйныя глупаўцы завалілі Нямігу й зруйнавалі цэлы стары гістарычны раён. Ну але дзе-ж там усё згадаеш. І так відаць з гэтага, што калі пры ўладзе стаяць чужыя й свае зладзеі й хуліганы, дык чаго добрага ад іх чакаць? Бо, як у Сьв. Эвангельлі сказана, з бруднага адно бруднае пацячэ... Зладзеі пры ўладзе, ганьбуюцца й раскрадаюцца рэлігійныя й культурныя сьвятыні, а меншыя зладзеі й хуліганы тым большым, дзяржаўным на помач... Але пра прычыны такога стану рэчаў, зь ведамых прычынаў, Шыдлоўскі ня можа гаварыць.

**К. Акула**

# ГАДАВЫ СХОД І СЬВЯТА ПАРАХВІІ У ТАРОНЬЦЕ

У сыботу 10-га травеня сёлета ў залі БІ-ГЦ адбыўся Гадавы Сход сяброў парахвіі Сьвятога Кірылы Тураўскага, што распачаўся малітвай Высокапачэснага Архіяпіскапа Мікалая. Сход адчыніў старшыня парахвіі Б. Кірка, а пасьля праверкі мандатаў старшынстваваў сп. М. Ганько. Сакратаром быў сп. В. Навіцкі.

Із справаздачаў вынікала, што жыцьцё парахвіі йшло нармальна, гаспадарка вялася добра. На прапанову сп. В. Навіцкага, Сход падзякаваў за добрую працу скарбніку ўправы Марыі Ганько, за старанную працу Ўладыку Мікалаю, за добрае кнігаводзтва й вынес агульную падзяку ўправе, якой Сход даў абсалюторыюм.

У новую ўправу выбраныя: сп. сп. Мікола Ганько, Марыя Ганько, В. Навіцкі, Ул. Цялеш, П. Ш. і Н. Баран, а ў Наглядную Раду — А. М., Б. Кірка й В. Касьцюкевіч.

Ці не найбольш часу Сход прысьвяціў разгляду непаладкаў, якія ёсьць у парахвіі Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парку ў штаце Нью Джэрзі ЗША. Была прынятая рэзалюцыя, якую пастаноўлена неадкладна выслаць зацікаўленым. У ёй сказана:

„Першае, прасіць Уладыку Мітрапаліта БАПЦ Андрэя, заангажаваных у гэтай справе сьвятароў і вернікаў, каб неадкладна спынілі акцыю, якая ў найлепшым выпадку можа спрычыніцца да раскладу, а ў найгоршым — да распаду парахвіі Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парку".

„Другое, прасіць вярхоўныя ўлады БАПЦ, каб неадкладна склікалі канфэрэнцыю ўсіх сяброў Рады БАПЦ дзеля разгляду й палагоджаньня гэтай справы".

У нядзелю 11-га травеня на Сьвятой Літургіі ў царкву зыбралася шмат больш вернікаў, чымся звычайна, з прычыны двух сьвятаў: Дня Маткі й Дня Патрона Царквы Сьвятога Кірылы Тураўскага. І сама служба была надзвычайная, бо Ўладыка Архіяпіскап Мікалай яе ад пачатку й да канца служыў па-беларуску. Ён карыстаўся кагадзе нова выданым службоўнікам, які галоўна й выйшаў дзякуючы ягоным стараньням і даўгому часу напорнае працы. У сваёй пропаведзі Высокапачэсны Архіяпіскап Мікалай гаварыў пра матку — нашу маці-жанчыну й нашу маці-Беларусь. І на заканчэньне царкоўны хор прапяяў маткам „многая лета".

Бяседа ў царкоўнай залі пачалася сьціплым абедам, падрыхтаваным нашымі руплівымі гаспадынямі. Пра Сьв. Кірылу Тураўскага, беларускага Златавуснага, як пісьменьніка й паэту, як выдатнага асьветніка й піянэра ў прыгожым царкоўным пісьменьстве гаварыў сп. В. Навіцкі. Даклад быў цікава й грунтоўна падрыхтаваны. Дакладчык зьвярнуў увагу на тое, што хоць Кірылу Тураўскага хвалілі расейскія дый навет савецкія вучоныя, сяньня на паняволенай Бацькаўшчыне няма сьвятыняў, што носяць імя нашага слаўнага продка, але затое шмат цэркваў імя Аляксандра Неўскага. І ў той час, калі ў вялікім і багатым горадзе Тураве дзейнічаў слаўны сын беларускага народу, Лёндан быў вялікім портам, дзе рэй, вядома-ж, вялі бравурныя матросы, а асьветы там было мала. А пра Маскву, што ў тыя часы можна было сказаць? Гэткім чынам наш слаўны Сьвяты Кірыла Тураўскі ёсьць і гордасьцяй, як вынікае з такіх прыраўнаньняў, беларускага народу.

Старшыня бяседы сп. М. Ганько прывітаў прысутнага мілага гасьця з далёкае Аўстраліі сп. Міколу Нікана, які перадаў прысутным прывітаньні ад суродзічаў у Аўстраліі й запэўніў іх у сваім духовым падтрыманьні, бо клопаты нашыя супольныя. Старшыня Царкоўнае Рады нашае сястры-парахвіі Сьвятога Духа з Дэтройту д-р Я. Сажыч вітаў прысутных ад імя свае парахвіі й выразіў вялікае задавальненьне, што першы раз пачуў службу ў царкве поўнасьцяй у беларускай мове, а гэта з тае прычыны, што галоўна дзякуючы стараньням Уладыкі Мікалая выйшаў царкоўны службоўнік. Ён абяцаў зрабіць стараньні, каб Дэтройцкая парахвія дала на пакрыцьцё коштаў друку службоўніка 500 даляраў. Варта, каб прыклад гэткай ахвярнасьці вернікаў у Дэтройце падтрымалі й нашыя вернікі зь іншых парахвіяў БАПЦ у цэлым заходнім вольным сьвеце.

Падчас гэтага сьвята за сталамі выступалі й іншыя прысутныя, што дзякавалі і гаспадыням за добры абед і людзям, што спрычыніліся да выданьня службоўніка ды выразілі сваё задавальненьне зь вельмі цікавага дакладу сп. В. Навіцкага пра Сьвятога Кірылу Тураўскага. Бяседа закончылася малітвай.

**К. Акула**

**ЧАКАЕМ І АД ВАС АХВЯРЫ**
**НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД**
**„Б Е Л А Р У С А"**

Заміж вянка на магілу

## СЬВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ ЛЕАНІДА ГАЛЯКА

**складаем $ 25.00 на**

**Выдавецкі Фонд „Беларуса"**

**Вольга й Аркадзь Арэхвы**

# НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"

**За папярэдні пэрыяд (у травені 1980) паступілі ў касу нашае газэты падпіска й наступныя ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса":**

### І. ЗША:

**Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

| | |
|---|---|
| 1. Аддзел БАЗА ў Кліўленьдзе | $20.00 |
| 2. В. Кажан | 15.00 |
| 3. А. Яраховіч | 10.00 |
| 4. а. М. Страпко | 10.00 |

**Разам: $ 55.00**

### ІІ. КАНАДА:

**А. Заплачана прадстаўніку „Беларуса" ў Канадзе сп-ру Антону Маркевічу:**

| | |
|---|---|
| 1 М. Кухарчык | $ 25.00 |
| 2. Б. Я. | 20.00 |
| 3. Б. Сладкоўскі | 20.00 |
| 4. М. Ганько | 20.00 |
| 5. В. Варанэцкі | 15.00 |
| 6. В. Навіцкі | 15.00 |
| 7. М. А. | 15.00 |
| 8. Л. Наркевіч | 15.00 |
| 9. П. Машчонскі | 10.00 |
| 10. А. Тарасэвіч | 10.00 |
| 11. М. Аляксеевіч | 10.00 |
| 12. К. Каранеўскі | 10.00 |
| 13. У. Целеш | 5.00 |
| 14. Я. Алешка | 3.00 |
| 15. А. Высоцкі | 2.00 |

**Разам: ЗША $ 195.00**

**Б. Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

| | |
|---|---|
| 1. Р. Нікан | $ 25.00 |
| 2. Я. Пітушка | 8.36 |

**Разам: ЗША $ 33.36**

### ІІІ. АЎСТРАЛІЯ:

**Заплачана сп. Міколу Нікану ў Мэльбурне:**

**А. На Фонд Юбілейнай Кнігі Янкі Купалы:**

| | |
|---|---|
| 1. М. Скабей | $ 30.00 |
| 2. А. Калодка | 20.00 |
| 3. М. Нікан | 20.00 |
| 4. А. Груша | 20.00 |
| 5. М. Кулага | 20.00 |
| 6. Г. Шэйпак | 20.00 |
| 7. П. Мікуліч | 20.00 |
| 8. М. Максімаў | 10.00 |
| 9. В. Гушча | 10.00 |
| 10. М. Шэко | 10.00 |

**Разам аўстр. $ 180.00**

Гэтта адно квітуецца атрыманьне вышэйшай сумы ў аўстралійскай валюце, якая была заплачаная Рэдакцыі „Беларуса" раней.

**Б. Ахвяры на газэту „Беларус":**

| | |
|---|---|
| 1. М. Скабей | $ 50.00 |
| 2. М. Нікан | 20.00 |
| 3. А. Калодка | 20.00 |
| 4. М. Кулага | 20.00 |
| 5. Г. Шэйпак | 20.00 |
| 6. П. Мікуліч | 12.50 |

**Разам аўстр. $ 142.00.50**

**В. Залеглая падпіска за мінулыя**

| | |
|---|---|
| 1. М. Максімаў | $ 30.00 |
| 2. Сп-ня Э. Яцкевіч | 15.00 |

**Разам: аўстр. $ 45.00**

Гэтта адно квітуем атрыманьне сумы $45.00 у аўстр. валюце, якая была атрыманая Рэдакцыяй „Беларуса" раней.

**Г. Падпіска на „Беларуса" за 1980 год**

| | |
|---|---|
| 1. П. Мікуліч | $ 15.00 |
| 2. Я. Стасевіч | 15.00 |
| 3. П. Гуз | 15.00 |
| 4. Г. Шэйпак | 15.00 |
| 5. Т. Лашук | 15.00 |
| 6. Ул. Седлярэвіч | 15.00 |
| 7. Т. Корбут | 10.00 |

**Разам: $ 115.00,** што, разам з даплатай да ранейшага рахунку, дало ў валюце ЗША .. .. .. **$122.50**

Гэтая сума атрыманая цяпер і толькі яна ўлічваецца на баку прыбыткаў.

Апрача гэтага — прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю падпіску на газэту, заплачаную сп. П. Трысмакову Беларусамі Адэляйды.

| | |
|---|---|
| 1. П. Пачопка | $ 21.00 |
| 2. К. Станкевіч | 10.00 |
| 3. П. Трысмакоў | 9.98 |

**Разам: ЗША $ 40.98**

### IV. БЭЛЬГІЯ:

Атрыманыя ад нашага прадстаўніка ў Бэльгіі сп. П. Барысіка 4 чэкі на агульную суму ЗША $ 112.56, як падпіску за 1980 год. У гэтым наступныя асобы заплацілі ў бэльгійскіх франках:

| | |
|---|---|
| 1. Л. Клыбік .... бэльг. франк. | 1,000 |
| 2. а. А. Смаршчок | 500 |
| 3. Сп. М. | 500 |
| 4. Я. Жучка | 500 |
| 5. А. Арэшка | 500 |
| 6. Р. Занкоўскі | 400 |
| 7. П. Барысік | 300 |

**Разам: бэльг. франкаў 3,700**

Іншыя асобы, што аплацілі падпіску, будуць пададзеныя пазьней.

### V. АНГЕЛЬШЧЫНА:

1. Беларускі Грамадзкі Клюб „Сакавік" у Брадфардзе **$470.00**

**Усяго разам у травені 1980 г.: ЗША $ 988.42**

**Усім тым, што прыслалі грошы, Рэдакцыйная Калегія „Беларуса" выказвае шчырае беларускае дзякуй!**

 